*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# Наша Слова.pdf



**Чацвёрты год выдання** **№ 11 (167) 12 сакавіка 2025 г.**

# "Каб любіць Беларусь нашу мілую..."

## Відэачэлендж беларускай паэзіі праходзіць у Лідскім раёне



Паэтычны челлендж "Чытай вершы", удзельнікі якога выконваюць у Сеціве вершы беларускіх аўтараў, стартаваў у Лідскім раёне, дзе сёлета пройдзе рэспубліканскае свята ў гонар Дня беларускага пісьменства, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА (https://belta.by/regions/view/kab-ljubits-belarus-nashu-miluju-videochellendzh-belorusskoj-poezii-startoval-v-lidskom-rajone-701193-2025/) у Лідскім райвыканкаме.

- А давайце запусцім чэлендж "Чытай вершы", прысвечаны Дню беларускага пісьменства!" - з такой прапановай звярнуўся ў сваім тэлеграм-канале да падпісантаў і ўсіх жыхароў раёна старшыня Лідскага райвыканкама Аляксандр Вярсоцкі. Слова хутка стала справай: кіраўнік раёна, у якім краіна адзначыць Дзень беларускага пісьменства сёлета, даў старт творчай ініцыятыве і прачытаў вядомы кожнаму беларусу верш Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі".

Уключылася ў творчы праект моладзь. Член маладзевага парламента пры Лідскім раённым Савеце дэпутатаў Яўген Доўган выступіў з творам Пімена Панчанкі "Родная мова", а старшыня Савета працоўнай моладзі Лідскага раёна Павел Трон - з аўтарскім сачыненнем "Кожны сам сабе мастак". Сваё слова кажа і самае юнае пакаленне жыхароў Гарадзеншчыны: выхаванцы дзіцячых садоў таксама дэкламуюць на роднай мове, і першым прачытаў верш Васіля Жуковіча "Васілёк" Міша Міхаловіч з дзіцячага садку №12 г. Ліды.

Ідэю прапаганды беларускай паэзіі падтрымаў святар - протаіерэй Расціслаў Салаўёў, які абраў для праекта вядомыя кожнаму і такія родныя радкі Янкі Купалы "Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына...".

Бухгалтар Лідскага раённага цэнтра па забеспячэнні дзейнасці ўстаноў сацыяльнай сферы Святлана Дон прачытала верш уласнага сачынення "Беларусь мая, родны мой кут, не забыць майму сэрцу ніколі тваіх казак і песень, шчодрасць палёў і людзей з незабыўнаю іх дабрынёю...". А намеснік старшыні райвыканкама Ігар Кашкевіч з сапраўдным артыстызмам прачытаў байку Кандрата Крапівы "Дыпламаваны баран", раскрыўшы яшчэ адну грань шматграннай беларускай літаратуры.

Марафон беларускай паэзіі ўжо выйшаў за межы Лідскага раёна. Падтрымала чэлендж намеснік старшыні абласной арганізацыі РГА "Белая Русь" Святлана Вараніца, якая прачытала легендарны верш Алеся Ставера "Жураўлі на Палессе ляцяць".

У Сеціве з кожным днём з'яўляюцца ўсё новыя відэаролікі, дзе чытаюць вершы на роднай мове людзі розных прафесій і пакаленняў, і робяць гэта не толькі артыстычна, але і з душой. Ёсць усе падставы меркаваць, што да Дня беларускага пісьменства жыхары Гарадзеншчыны, якія шчыра любяць сваю вялікую і малую радзіму, складуць вялікі відэазборнік беларускай паэзіі, адкрываючы яе для сябе і для ўсіх нас ва ўсім сваім багацці і прыгажосці.

А пакуль вярсталася гэтая старонка ў Сеціве з'явіўся запіс верша Васіля Лапіцкага "Добра думай". Чытае старшыня Лідскага раённага Савета дэпутатаў Інеса Белуш разам з унучкай Арыянай.

Так трымаць!

***ТК "Культура Лідчыны".***

# Міжнародны дзень роднай мовы

## 18-я Агульнанацыянальная дыктоўка

### ва ўстановах Галоўнага ўпраўлення адукацыі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта

Наступіла пара падвесці вынікі мерапрыемстваў да Дня роднай мовы і ўсіх відаў беларускіх дыктовак, напісаных ва ўстановах Галоўнага ўпраўлення адукацыі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта

Інфармацыя аб правядзенні дыктоўкі была накіравана ў райгарвыканкамы, установы культуры, адукацыі, іншым установам і арганізацыям.








У межах святкавання Міжнароднага дня роднай мовы для навучэнцаў, педагагічных работнікаў, прадстаўнікоў грамадскасці вобласці 21 лютага 2025 года было арганізавана правядзенне Гарадзенскага абласнога дыктанта, прысвечанага 80-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Для напісання дыктанта быў прапанаваны тэкст "Успаміны маленства", прысвечаны падзеям самай трагічнай вайны ў гісторыі нашай краіны.

Удзел у напісанні дыктанта прынялі супрацоўнікі райгарвыканкамаў, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў.







Ва ўстанове адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" 21 лютага 2025 года на ўсіх







факультэтах адбылося напісанне традыцыйнай агульнаўніверсітэцкай Купалаўскай дыктоўкі "Знайдзі сябе з намі".

Акрамя таго, з мэтай папулярызацыі беларускай мовы і культуры, далучэння моладзі да вывучэння гісторыі, культуры, традыцый сваёй радзімы ва ўстановах адукацыі і культуры вобласці быў арганізаваны шэраг конкурсаў, кніжных выстаў, творчых сустрэч з пісьменнікамі Гарадзеншчыны і іншых мерапрыемстваў.

У лютым 2025 года праведзены:

конкурсы чытальнікаў вершаў і выканаўцаў музычных твораў на вершы беларускіх пісьменнікаў, уласных твораў, прысвечаных мове;

тэматычныя кніжныя выставы "З любоўю да роднага слова", "Шануй і беражы родную мову", "Беларуская мова - мелодыя сэрца";

конкурсы сачыненняў-эсэ "Я гэты край радзімаю заву";

вусныя часопісы "Чароўныя напевы роднай мовы", "Сэрцам роднага слова краніся";

акцыі “Гавары са мной па-беларуску", "Маё любімае слова па-беларуску";

інфармацыйныя гадзіны "Славутыя сыны сваёй краіны";

літаратурна-музычныя кампазіцыі "На кожнай сцяжынцы іх песня і голас";

творчыя сустрэчы з пісьменнікамі Гарадзеншчыны;

конкурсы малюнкаў па творах беларускіх пісьменнікаў;

тэатралізаваныя пастаноўкі і іншыя мерапрыемствы.

Таксама ў лютым 2025 года ва ўстановах адукацыі праходзілі мерапрыемствы, прысвечаныя святкаванню 90-годдзя з дня нараджэння Рыгора Барадуліна і 100-годдзя з дня нараджэння Івана Навуменкі.

У рамках Тыдня роднай мовы вучні ўстаноў адукацыі Лідскага раёна, настаўнікі, бацькі прымалі ўдзел у напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі і Гарадзенскага абласнога дыктанта.

Як і летась, дыктоўкі ў школах Лідчыны былі арганізаваны на самым высокім узроўні. Летась школы далі 11 779 удзельнікаў дыктовак. Здавалася б, расці няма куды, аж не. Сёлета ў лідскіх школах дыктоўкі пісалі 12 438 чалавек. З іх 18-ю Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі 7 492 чалавекі, а Гарадзенскі агульны дыктант пісалі 4 946 чалавек. Такім чынам мы маем новы рэкорд па школах. Акрамя школ дыктоўкі пісалі чатыры каледжы (Лідскі каледж - 150 чалавек, Лідскі музычны каледж, Лідскі політэхнічны каледж - 43 чалавекі, Лідскі тэхналагічны каледж). Дыктоўкі пісалі бібліятэкі, клубы, іншыя ўстановы культуры, а таксама арганізацыі БРСМ. Атрымоўваецца каля 13 000 чалавек. Гэта новы рэкорд для Лідскага раёна. Калі дадаць сюды выхаванцаў старэйшых груп больш, чым 50 садкоў, гледачоў і ўдзельнікаў розных культурніцкіх мерапрыемстваў, то атрымоўваецц, што ў мерапрыемствах да Міжнароднага дня роднай мовы на Лідчыне ўдзельнічалі каля 15 тысяч чалавек, а гэта больш за 11% насельніцтва раёна.

У цэлым у Гарадзенскай вобласці ўсе віды дыктовак пісалі каля 70 000 чалавек.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Школа са знакам якасці

## Кіраванне адукацыі Лідскага раёна па выніках працы за 2024 год прызнана лепшым у краіне

У 2024 годзе Лідскае кіраванне адукацыі атрымала найвышэйшыя паказчыкі ў гісторыі.

За год навучэнцамі ўстаноў адукацыі заваявана больш за 450 прызавых месцаў у конкурсах.

У райцэнтры стала на аднаго настаўніка больш са званнем "Заслужаны", у школах дзейнічае некалькі тэхнічных лабараторый, установы адукацыі адзначыліся вялікай колькасцю стабальнікаў і пераможцаў алімпіяд.

**Настаўнікі здалі на выдатна.**

Начальнік кіравання адукацыі Лідскага райвыканкама Вольга Тарасюк:

- Гэта вынік працы высокапрафесійнага і творчага педагагічнага калектыва. Педагогі, іх вучні і выхаванцы неаднаразова прызнаваліся пераможцамі і прызёрамі ў выставах, конкурсах, фэстах абласнога, рэспубліканскага і міжнароднага ўзроўняў.

Званне "Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь" прысвоена настаўніку рускай мовы і літаратуры гімназіі №1 г. Ліды Таццяне Глыздовай. Дыплом III ступені ў намінацыі "Лепшы настаўнік-дэфектолаг" на IX Міжнародным конкурсе профмайстэрства спецыялістаў дашкольных адукацыйных арганізацый краін СНД "Майстэрства без меж" заваяваны Таццянай Плотнікавай, педагогам дзіцячага саду № 26 г. Ліды. Лепшым выхавальнікам аздараўленчага лагера па выніках абласнога конкурсу стала Таццяна Клябека, выхавальнік АЛ "Бярозка", настаўнік СШ № 15 г. Ліды. Педагог гімназіі №1 г. Ліды Алена Рубель ганаравана дыпломам II ступені абласнога конкурсу на лепшую арганізацыю дзейнасці сацыяльных педагогаў.

**16 устаноў адукацыі** паспяхова завяршылі эксперыментальную і інавацыйную дзейнасць.




**29 стабальнікаў.**




Створаныя ўмовы, у тым ліку эфектыўная сістэма настаўніцтва, дазволілі замацавацца 85% маладых спецыялістаў.

Ва ўстановах дашкольнай адукацыі дзеці ўцягнуты ў даследчую і прыродаахоўную дзейнасць, у рэалізацыю раённага грамадзянска-патрыятычнага праекта "Я і Радзіма мая".

Далейшае развіццё атрымала рэалізацыя праектаў Парку высокіх тэхналогій "Лабараторыя адкрыццяў", "Інфарматыка без разеткі", "Робаалгарытміка".

Па выніках цэнтралізаванага іспыту і цэнтралізаванага тэставання заваявана 29 стобальных сертыфікатаў. 70 выпускнікоў 11-х класаў атрымалі атэстаты пра агульную сярэднюю адукацыю з узнагароджаннем залатым і срэбным медалямі, 99 выпускнікоў 9-х класаў - пасведчанні пра агульную базавую адукацыю.

Навучэнцамі заваявана 65 дыпломаў пераможцаў на абласной і 11 на рэспубліканскай алімпіядах па навучальных прадметах, найлепшыя вынікі прадэманстравалі навучэнцы лідскіх гімназіі №1, СШ №17, СШ №1. Ягор Сушкоў (СШ № 9 г. Ліды імя А.В. Нічыпорчыка) заваяваў залаты і срэбны медалі на міжнароднай алімпіядзе па навуках пра Зямлю.

Нададзена значная ўвага развіццю даследчых навыкаў навучэнцаў. У выніку - 16 дыпламоў пераможцаў заваявана навучэнцамі на абласной канферэнцыі даследчых прац "Крыштальная Альфа". 3 дыпломы атрыманы навучэнцамі СШ № 1 г. Ліды і сярэдняй школы № 8 г. Ліды імя В.Ф. Казакова на міжнароднай канферэнцыі "Вялікая Айчынная вайна ў гістарычнай памяці народа". 57 вучняў устаноў адукацыі прайшлі навучанне ў Нацыянальным дзіцячым тэхнапарку.

**Выхоўваюць патрыётаў.**

Створаны ўмовы для вывучэння асобных навучальных прадметаў на падвышаным узроўні. Такую магчымасць рэалізавалі больш за 82% навучэнцаў 10-11-х класаў. Пашырана сетка профільных класаў прафесійнай скірава-





насці: працуюць 35 класаў (груп) ваенна-патрыятычнай, педагагічнай, спартова-педагагічнай, аграрнай, інжынернай, чыгуначнай, медыцынскай скіраванасці, што дае магчымасць больш сістэмна рыхтавацца да паступлення. Забяспечана прафесійная падрыхтоўка навучэнцаў 10-11-х базавых класаў па 10 прафесіях.

Больш за 77% навучэнцаў наведваюць аб'яднанні па схільнасцях. Працуе восем дзіцячых калектываў самадзейнай мастацкай творчасці.

За год навучэнцамі ўстаноў адукацыі заваявана больш за450 прызавых месцаў у абласных, рэспубліканскіх, міжнародных конкурсах па розных кірунках выхавання.

20.02.2025 года на калегіі Міністэрствы адукацыі Рэспублікі Беларусь падведзены вынікі працы сістэмы адукацыі за 2024 год.

Кіраванне адукацыі Лідскага раённага выканаўчага камітэта адзначана граматай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Лепшае структурнае падраздзяленне гарадскіх, раённых выканаўчых камітэтаў, мясцовых адміністрацый раёнаў у гарадах, якія ажыццяўляюць дзяржаўна-ўладныя паўнамоцтвы ў сферы адукацыі" з уручэннем пераходнага прыза.

Гэта вынік працы высокапрафесійнага, адданага сваёй справе педагагічнага калектыва Лідчыны!

***Сайт Кіравання адукацыі.***

# Дзень роднай мовы ў Лідскім дзяржаўным тэхналагічным каледжы

21 лютага ва Установе адукацыі “Лідскі дзяржаўны тэхналагічны каледж” адзначылі Дзень роднай мовы.

З гэтай нагоды ў каледжы юнакі і дзяўчаты пісалі дыктоўку на беларускай мове, а менавіта ўрывак з апавядання Якуба Коласа "Сустрэча з ворагам".








Навучэнцы каледжа адказна аднесліся да выканання задання і атрымалі добрыя і выдатныя адзнакі за дыктоўку.

***Наш кар.***

# Тыдзень беларускай мовы ў Лідскім музычным каледжы

Адкрыццё Тыдня беларускай мовы, прысвечанага Міжнароднаму дню роднай мовы ў Лідскім музычным каледжы адбылося 17 лютага 2025.

Гэта асаблівая падзея, якая аб'яднала ўсіх навучэнцаў каледжа ў павазе і любові да беларускай мовы - нашай спадчыны і культурнай каштоўнасці.

Мерапрыемствы гэтага дня дазволілі паглыбіцца ў свет беларускай мовы, лепш зразумець яе багацце і самабытнасць.

Натхнёна гучалі вершы беларускіх паэтаў, выказванні знакамітых людзей пра мову і родны край. Навучэнцы з ахвотай прымалі ўдзел у лінгвістычных гульнях, віктараных, фэш-мобе, выпуску інфармацыйных флаераў "У любімай мове, роднай, наскай… Ах, якія словы…", акцыі "Размаўляй са мной па-беларуску".

Лектарская група выступіла з дакладам "З гісторыі святкавання Міжнароднага дня роднай мовы" і інш.





21 лютага ў рамках святкавання Дня роднай мовы навучэнцы музычнага каледжа прынялі ўдзел у Гарадзенскім абласным дыктанце.







Давайце разам будзем шанаваць і берагчы нашу родную мову, перадаваць яе будучым пакаленням. Няхай Тыдзень беларускай мовы стане крыніцай натхнення і імкнення да ўдасканалення для ўсіх нас!

***Наш кар.***






# Гарадзенскі абласны дыктант у Лідскім політэхнічным каледжы

У межах святкавання Міжнароднага дня роднай мовы для вучняў, педагагічных работнікаў і іншых супрацоўнікаў 21 лютага 2025 года ў Лідскім дзяржаўным політэхнічным каледжы прайшоў Гарадзенскі абласны дыктант на тэму "Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI-пачатак XX ст.)", аўтар Бярозкіна Н.Ю.

Дыктоўку пісалі 43 чалавекі.













Акрамя таго была арганізавана выстава малюнкаў на тэму Дня роднай мовы.




***Наш кар.***



№ 11 (167) 12 САКАВІКА 2025 г.
наша СЛОВА.pdf

# Юбілей Міколы Канановіча

*Што позна, а што не -*
*Тлумачыць мне не трэба.*
*Я жыў у тамане*
*І з ім сыду на неба.*

Гэтыя запамінальныя радкі напісаў мой зямляк, паэт, празаік, журналіст Мікола Кананові́ч. 13 сакавіка Міколу спаўняецца 60 гадоў. Юбілей!



Здаецца зусім нядаўна ён працаваў настаўнікам у школе, пасля яго запрасілі ў "Газету Слонімскую" на пасаду карэктара. З карэктара ён хутка вырас да намесніка рэдактара. А калі нечакана памёр рэдактар "Газеты Слонімскай" Віктар Валадашчук, то Мікола сам пачаў рэдагаваць выданне.

Да паступлення ў БДУ мой зямляк скончыў Гарадзенскае прафтэхвучылішча № 41, працаваў кінамеханікам, служыў у войску. Вось такая кароткая і не вельмі мудрагелістая біяграфія Міколы Канановіча - слонімскага літаратара. Мы з ім жывём у адным горадзе, хаця бачымся не часта. Кожны заняты сваімі справамі і клопатамі. Але аб'ядноўвае нас адно - любоў да роднага беларускага слова.

Пісаць вершы мой зямляк пачаў даўно. Друкаваўся ён амаль ва ўсіх рэспубліканскіх газетах і часопісах. Проста не хочацца іх пералічваць. Ён быў рэдактарам зборніка "Паэтычная Слонімшчына" (2000) і двух выпускаў літаратурнага альманаха "Ад Я да Я" у 2001 і 2003 гадах падлеткавага літаратурнага клуба "Святліца" ў Слоніме.

У 2003 годзе ў Менску выйшаў з друку яго першы паэтычны зборнік "І доўжыцца ноч". У гэты зборнік увайшлі вершы, напісаныя ў розны час. Яны і пра гравітацыю, і пра стому, і пра беларускую восень, і пра метамарфозы, і пра дыялектыку, і, вядома ж, пра каханне:

*Не кляні, не малі цяпла,*
*Не шукай нічыёй віны.*
*Зразумей: мяне больш няма -*
*Твайго лета сярод зімы.*




Другая кніга паэзіі "Вяртанне восені" Міколы Канановіча, куды ўвайшлі вершы і антыпаэма "Мяжа", свет пабачыла ажно праз 17 гадоў - у 2020 годзе. Найбольшы шлях ад першага зборніка "Песні на загонах" (1939) да другога "З пройдзеных дарог" (1970) быў у слонімскага паэта Анатоля Іверса - 31 год. Пакуль, дзякаваць Богу, яго рэкорд ніхто са слонімскіх літаратараў не "пабіў". Мікола Кананові́ч на другім месцы. Усё ж шлях у 17 гадоў таксама вялікі, бо за гэты час было напісана шмат новых паэтычных і празаічных твораў, якія заслугоўваюць асобных выданняў аўтара.




Мне пашчасціла напісаць прадмову да кнігі "Вяртанне восені". Прадмова мае назву "На дне стамлёнае душы". У ёй я адзначыў філасафічнасць твораў паэта. Паэта раней і цяпер цікавіць адвечнае пытанне пра тое, што вызначае чалавека як асобу. Складанае і простае, высокае і нізкае, светлае і цёмнае, глыбокае і павярхоўнае ў чалавеку - вось сферы даследавання твораў Міколы Канановіча. Многія вершаваныя радкі так і хочацца запамінаць, занатоўваць, цытаваць. З аднымі можна не пагаджацца, да іншых проста далучацца і пагаджацца. Гэта - шчырая адкрытасць аўтара, якая заклікае да палемікі, да роздуму, а таксама да сціплага і сцятага маўчання. Невыпадкова другі зборнік паэта мае падзагаловак "Сцятыя вобразы". Гэтых "сцятых вобразаў" у зборніку даволі шмат, іх проста трэба выпісваць, ствараць своеасаблівы слоўнік, над якім можна разважаць пра наша жыццё з розным сэнсам. Я разумею, што сёння і, відаць, заўсёды было цяжка сцвярджацца людзям, цяжка адстойваць сваё "я", бо вакол нас яшчэ безліч непарадкаў. Але заслугай чалавека было і ёсць тое, што ён спрабуе выйсці пераможцам з усіх найскладанейшых жыццёвых выпрабаванняў, захоўвае сваю думку, сумленне і надзею. Дарэчы, творчасць слонімскага літаратара адзначана літаратурнай прэміяй імя Анатоля Іверса.

У наш няпросты час хочацца верыць, што пісьменнік Мікола Кананові́ч яшчэ парадуе чытачоў сваімі новымі паэтычнымі і празаічнымі выданнямі. Галоўнае, каб было здароўе і натхненне на новыя творчыя адкрыцці. З юбілеем, сябра!

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

*Станіслаў Libмараўскі*

# Некалькі гадоў маёй маладосці ў Вільні[1] (1818-1825)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Магчыма, самым смешным з ёй быў наступны выпадак, які я магу сёння згадаць. Стольнікава вельмі клапацілася пра сваё здароўе, і таму за ёй рэгулярна наглядалі лепшыя і дарагія лекары. Дзякуючы іх стараннем, пры нармальным стане здароўя, а 9-й гадзіне яе страўнік заўсёды адчыняўся. Для гэтага ёй у ложак прыносілі спецыяльна прыгатаваны парцалянавы посуд, у які яна апаражнялася седзячы пад коўдрай на ложку. Яна ніколі не прымала візіты да абеду, і ўся яе шматлікая хатняя прыслуга разыходзілася па горадзе і рынках, не пільнавала дом. Неяк, як на ліха, у Вільню прыехаў правінцыял айцоў бернардынаў, паважаны стары, які, аднак, не ведаў свецкіх кодэксаў, але захацеў асабіста пакланіцца такой высакароднай пані. Ён прыйшоў як раз у тую кананічную і ціхую гадзіну, калі стольнікава, худая і лёгкая, як пёрка, сядзела на сваім парцалянавым троне. Не знайшоўшы слуг у перадпакоі, ён пайшоў далей і далей, покуль нарэшце не дабраўся да спальні. Можна ўявіць жах, сорам і збянтэжанасць стольнікавай. Правінцыял, аднак, ні аб чым не здагадаўся і што яшчэ лепш, нічога не знюхаў. Ён і сапраўды нічога не зразумеў, бо каля трох чвэрцяў гадзіны сядзеў каля яе ложка ў фатэлі, а стольнікава акурат столькі ж часу сядзела на парцаляне і мусіла падтрымліваць з ім свецкую размову. І толькі, калі пачцівы ксянжыска сыходзіў, ён выказаў здзіўленне, што, стольнікава чамусьці сёння выглядала вышэйшай, чым звычайна.

Заканчваючы гэтае апавяданне, я павінен дадаць - тое, што я сказаў пры стольнікаву і яе дом, адпавядае таму, што я бачыў на свае вочы, калі ёй было каля 100 гадоў. І калі я згадаў пра яе тагачасную абыякавасць да чужой бяды і адмову ад якой-небудзь пратэкцыі, дык такая холаднасць магла быць вынікам не толькі ўзросту, але і пакутлівых перажыванняў за свой доўгі век. Раней усё было не так! Яе сябры ведалі, што падчас касцюшкаўскай эміграцыі многія з першых літоўскіх паноў, пакідаючы радзіму, перадавалі ёй без найменшых пісьмовых дакументаў вялізныя сумы гатоўкай і значныя каштоўнасці ў кляйнотах. І ўсё гэта яна аддала ім пасля вяртання на радзіму. А поўнае павагі сяброўства, якое мелі да яе


Dr. Stanislaw Morawski.

**Станіслаў Мараўскі**

Рапнін[51], Булгакаў, Фрэзель, Мёнш (Д 9) і Галіцын[52], дазваляла разарваць ланцугі шматлікіх вязняў, якіх яна вярнула з глыбінь Сібіры.

Старая пані Гарэцкая[53] з дому Рэўтаў, віленская войская, удава высакароднага, знакамітага і шанаванага ўсімі мужа, славілася сваім непахісным патрыятызмам. У 1792 г. і потым, маючы яшчэ малых сыноў, на руках выносіла іх на двор, хоць яны былі ўжо цяжкія, і плаціла па рублю маскоўскім жаўнерам, каб дзеці білі іх у твар. І падчас гэтага яна крычала сынам у вушы: "Бі маскаля, бі маскаля". Пані Гарэцкая мела тады пры сабе двух сыноў: Антонія - жаўнера Напалеона, мілага і сумленнага, умелага байкапісца і паэта поўнага дзіўнай прастаты[54], і

[1] Morawski Stanislaw. Kilka lat mlodosci mojej w Wilnie (1818-1825). Warszawa, 1924. *Пераклад Леаніда Лаўрэша*

[51] Мікалай Рапнін, з 30.10.1794 г. па 26.11.1798 г. віленскі генерал-губернатар.

[52] Якуб Булгакаў, амбасадар Кацярыны II у Варшаве з 1797 па 1799 гг., Іван Фрэзель, віца-губернатар з 1798 па 1802 гг., Мёнш, Галіцын - віленскія губернатары.

[53] Ганна Гарэцкая з Рэўтаў, жонка Валенты, віленскага войскага, патрыёта і дзеяча 1794 г. Мела з ім 3 дачкі і 2 сына: Антонія, вядомага паэта-байкапісца і Раймунда Юзафа.

[54] Пра яго гл: Лаўрэш Леанід. Антоні Гарэцкі - забыты паэт // Ад Лідскіх муроў. 2011. №7. Ліда, С. 194-200.





другога - Юзафа, таксама вядомага чалавека, але толькі як шулера, хоць ён таксама з гонарам служыў у нашым войску. Юзаф быў імпульсіўны, ганарлівы, непрыемны, але падобны на сваю маці, і яна прыкіпела да яго ўсім сэрцам. А быў гэтага не варты. Гэты Юзаф, прайграўся да кашулі і з роспачы шчасліва ўтапіўся ва ўласным маёнтку. Малодшы Антоні, з тварам брыдкім, як смяротны грэх, быў пры гэтым наймілейшым чалавекам - гледзячы сам на сябе ў люстэрка называў сябе "чыстым жыдком". Антоні ажаніўся з рафаэлевай Мадоннай, з паннай анёльскай знешнасці Веранікай з Эйдзятовічаў і ў 1831 г. эміграваў у Францыю.

Дом пані Гарэцкай быў адным з самых паважаных у Вільні. Дом са старымі традыцыямі, з якім не маглі зраўняцца тагачасныя навамодныя сфранцужаныя дамы іншых паноў. Я буду імкнуцца не часта згадваць такія дамы, бо іх і сёння ўсюды багата. Але дом Гарэцкай вылучаўся найвялікшай высакароднасцю і ветлівасцю, асаблівай прыгажосцю дам, якія там бывалі, і поўным выдаленнем адтуль "сваяцкага" элементу з асаблівым "куншутовым" водарам. Нягледзячы на тое, што абодва сыны добра на грошы "ашчыпалі" сваю маці, да таго ж яна не раз сплачвала іх даўгі, гэтая разумная жанчына змагла зэканоміць некалькі сотняў тысяч, чаго хапала для раскошнага жыцця ў тагачаснай Вільні. Яе дачка Высагердава не была прыгожай. Чорная і худая, знешнасцю не кідалася ў вочы, але і брыдкай не была. Яна была выбітнай асобай, вельмі ветлівай, мілай, прыемнай, з добрым гумарам, начытанай і добра прынятай ва ўсіх еўрапейскіх дварах. Мела больш за прыгажосць - была прыемнай і добрай. Мела багацце. У яе доме, асобным ад матчынага, маладыя людзі, прытрымліваючыся старых правіл, вельмі шляхетна і прыгожа бавілі час - у яе доме сумленна злучаліся старыя і новыя звычаі. Маладзён лічыў за гонар быць прынятым у яе, аднак колькасць прынятых была невялікай. Размаўлялі наперамен папольску і па-французску, не звяртаючы на гэта асаблівай увагі, у той час, калі ў пані Гарэцкай, канешне ж, панавала польская мова, а хто пачынаў французіць з дамамі, таго там лічылі толькі за блазна. Усе, хто ў яе бываў, ведалі мовы, але мусілі прыстасоўвацца да нораву старасвецкай матроны. І маці і дачка мелі рацыю, і ў іх абедвюх нам было вельмі прыемна. Іх дамы сардэчна шанавалі і любілі. Сярод моладзі вышэйшага саслоўя нават ўвайшло ў моду закахацца ва ўдаву Высагердаву. Воляй-няволяй, трэба было гэтага прытрымлівацца і цяжка ўздыхаць, інакш цябе маглі абазваць словам з чатырох літар. Але яна, лагодная і мілая жанчына, ні ў кога з нас, блазнаў, не была закаханая, не мела ніякага какетства і нават не ведала, што яна ў нас у такой вялікай пашане. Выдадзеная прымусам замуж сваёй самавольнай маці, яна закахалася толькі пасля таго, як аўдавела. Адзіным чалавекам, які натхніў яе на такі моцны запал і за якога яна хутчэй за ўсё пайшла б замуж, быў слаўны Казятульскі[55], палкоўнік, рыцар і гонар нашай зброі і войска. Іспанская куля пад Сарагосай на палову абрэзала яго плюмаж і менавіта такім малююць яго на гістарычных карцінах. Але пасля таго як Казятульскі страціў розум у Дрэздане, небарачка Высагердава замкнулася ў жалобе свайго сэрца і толькі ў 1829 г., ужо старой, зрабіла глупства. Закахалася ў пляменніка сваёй сястры Людвіка Замбрыцкага, прыгожага, як анёл, хлопца, які потым мусіў эміграваць у Францыю і там памёр ад сухотаў. З дазволу папы, яна, у два разы за яго старэйшая, выйшла замуж за Людвіка. А ён, пэўна, палічыў за лепшае пайсці ў паўстанне, чым жыць у абдымках ужо старой для яго жанчыны.

Яе маці Гарэцкая мела тады ўжо больш за 60 гадоў, была чорная, як вугаль і сухая, як мумія. Казалі, што некалі яна была прыгожай, але, мусіць, гэта было вельмі даўно. Калі мы пазнаёміліся, у яе ўжо былі паралізаваныя ногі і ўвесь час яна ці ляжала ў ложку, ці яе вазілі ў механічным крэсле. Мела суровы і пагрозлівы твар, і калі бацька прадставіў мяне ёй і я зірнуў на яе, у мяне ажно здрыгануліся лыткі. Але д'ябал не заўсёды такі страшны, як яго малююць.

Адметным было тое, што яна ўвесь час пісала лісты ўсяму свету і ніколі не магла дапісаць усе патрэбныя ў слове літары. Нават падпісваючыся, яна ніколі не пісала "Гарэцка", але ці "Грка" ці "Грцка". У гэтым сэнсе горшай за яе была гетманова Касакоўская[56], жонка павешанага ў 1794 г. Бо тая, калі заканчвалася папера, з-за рассеянасці, дапісвала ліст на стале, а потым, як быццам так і трэба, запячатвала і адпраўляла ліст і пры гэтым зусім не думала, што можа самае галоўнае, засталося на стале з чырвонага дрэва. Але і лісты Гарэцкай былі не лепшымі.

Мой бацька ў яе бываў, як у сябе дома. Расказвалі, што гэты слаўны лавелас, няздольны дараваць ніводнай жанчыне, калісьці меў з ёю блізкія стасункі і што аднойчы ён, пераапрануўшыся ў эканома, некалькі сотняў міль па Беларусі ажно да Себяжа, сачыў за яе карэтай. Потым яны рассталіся, але сяброўства захавалася да яго смерці. Але магчыма гэта проста жаночыя плёткі (Д 10).

Дом пані войскай, у якім я "пад батагамі" майго бацькі таксама мусіў бываць, для мне быў вельмі сумны, бо хворая, старая, сварлівая, капрызная і хныкаючая старая, як і пані стольнікава, любіла карты, у якія я ніколі

[55] Казятульскі Ян Леан, сын Антонія, бендзінскага старасты і Мар'яны з Гратоўскіх. Нарадзіўся ў 1781 г., паступіў у войска ў 1806 г. Вызначыўся пад Элаў у 1807 г. і быў прызначаны шэфам эскадрона гвардыі, у 1808 г. у Іспаніі прымаў удзел у бітве пад Самасерай, у 1809 г. пасля бітвы пад Ваграмам атрымаў ордэн Ганаровага легіёна, у 1811 г. атрымаў тытул барона Французскай імперыі. Вызначыўся ў кампаніях 1812-14 гг. У 1812 г. - маёр гвардыі, у 1815 г. палкоўнік 4-га палка уланаў. У 1820-м г. пайшоў у адстаўку. Памёр у 1821 г.

[56] Гетманава Касакоўкая, Тарэза з Патоцкіх, дачка Міхала, валынскага ваяводы. Жонка гетмана Шымана Касакоўскага, павешанага ў Вільні ў 1794 г.

ў жыцці не гуляў, але меўся там і іншы сапраўдны магніт! Яна заўсёды мела пры сябе некалькі маладых паненак, сваячак ці прыжывалак. Працяглы час жылі з ёй панна Гагноўна, панна Ванкавічоўна, сястра слаўнага і рана памерлага мастака, панна Барцяроўна і шмат іншых. Усе яны былі ці вельмі ладныя, ці вельмі мілыя. Калі дзяўчына вясёлая, мы кідаемся ў заляцанкі. Але ў заляцанкі сціплыя, пачцівыя, прыстойныя - толькі ўздыхі з закатваннем вачэй.

Аднойчы я прыходжу, а дзверы ў пакой старой зачынены. Панны кажуць: "Пані войская моцна пакутуе і сёння нікога не прымае", - і робяць кіслыя міны. "Невялікая бяда", - падумаў я, бо ўжо прыняты ў дом. Праз 15 хвілін нашай балбатні старая пачала моцна званіць. Унучка Ванкавічоўна пабегла да яе, вярнулася і кажа: "Пані войская просіць пана да сябе". Іду. Дзверы за мной зачыняюцца. Трохі пастагнаўшы, трохі паскардзіўшыся, старая пачала сур'ёзна прасіць, каб я дазволіў сябе пацалаваць. Кепска, але што зробіш? Схапіла яна мяне дрыжачымі сухімі рукамі і як трэба, горача пацалавала. Потым падзякавала, і сказала, што ёй стала лепш. "Але ж ты, Стасю, такі ладны, што мне, старой, вытрымаць цяжка", - дадала яна. І насамрэч яна паздаравела, бо адразу пасля гэтай нешчаслівай для мяне аперацыі, загадала адчыніць дзверы, і госці, які сабраліся да таго часу, цэлы вечар гулялі з ёй у бастон.

Пані войская жыла на вуліцы Святаянскай у доме Урублеўскага. Насупраць стаяў вялікі дом, на які я ніколі не меў часу звярнуць увагу, бо глядзеў на вокны Гарэцкай і на ўніверсітэцкія заняткі заўсёды хадзіў па тым баку вуліцы, з якога, як малады вісус, мог убачыць панну Гагноўну ці каго яшчэ з іншых дзяўчат, пакланіцца і з усмешкай адказаць ім. Неяк, акурат улетку, як звычайна ішоў на лекцыю слаўнага на ўсю Еўропу натураліста Баянуса і глядзеў у вокны Гарэцкай - няма нікога! А псотніцы ўжо ведалі гадзіну, калі я іду на лекцыі і звычайна мелі тады нейкую працу каля акна. Апусціўшы нос, пачаў думаць пра сваю паразу, калі нешта ўпала мне на галаву. Паглядзеў уніз - некалькі дзесяткаў свежых руж. Паглядзеў угару - з малюсенькай белай ручкі і прыгожага кошыка на мяне высыпаюцца апошнія кветкі! Хто гэта можа быць? Не ведаю! Інстынктыўна зноў зазірнуў у акно Гарэцкай. А там, як на бяду, ужо стаяў шпег і сведка, панна Гагноўна, якая на ўсю гэтую сцэну глядзела з такім здзіўленнем і абурэннем, што ажно заламала пальчыкі і абедзве рукі праклала да бузі (роціка). Разгублены, рушыў я далей. На маім капелюшы засталося тры-чатыры ружы, з якіх блазны, мае калегі, досыць наздзекаваліся на лекцыі. Але акрамя руж, мне было цікава, чыя гэта была рука? Латва было мне думаць пра гэта, бо шлях да шчасця прапанавалі ў такой квяцістай форме і без усялякіх намаганняў з майго боку! Нарэшце, я сустрэў гэтую арыгінальную, дзіўную,ззяючую цудоўнымі чарамі цела і душы жанчыну. Яшчэ адзін раз у жыцці я бачыў падобную ножку, але з таго часу ніколі не бачыў падобнай ручкі!

Адчыню заслону над усім, што было натуральнай выпадковасцю, магчыма неасцярожнасцю ці неабдуманым дзеяннем. Сама яна ў гэтым прызналася, і хто пасля гэтага кіне ў яе камень? Але ружы, высыпаныя на мяне незнаёмкай, дагэтуль займаюць самае мілае і радаснае месца ў маёй памяці! І калі я меў у жыцці сапраўдную, адначасова і духоўную і матэрыяльную асалоду, дык толькі ў тваіх салодкіх абдымках, бясцэнная, неапісальная ніякім пяром, ніякім красамоўствам, ніякімі словамі, Юлія! І сёння, прыціснуты да зямлі лёдам гадоў, шматлікіх памылак і цяжарам вопыту, я столькі разоў на дзень аплакваю хуткую страту цябе, анёла, забранага на неба ў 20 гадоў. Не магу не прызнацца, што ты была для мяне адзінай! Што пра тваю дабрыню, тваё каханне, тваю рэдкую прыгажосць і аблічча, памяць пра агонь і сілу, з якой твая душа злілася ў маёй, і сёння грэе маю кроў, якая, напэўна, ужо астывае і раздражняе ўсе фібры майго сэрца, якое ўжо даўно памерла для кахання!

Дадаткова.

8. Пра яе на падобным абедзе Антоні Гарэцкі напісаў адзін са сваіх знакамітых, напоўненых досціпам экспромтаў, якімі сыпаў і сыпаў, як быццам трос грушу ці яблыню і большасць з якіх, на жаль, страчаны, хоць у свой час іх ведалі ўсе.

Жыхар, здаецца, Лівоніі граф Моль, вырашыў, што ён паэт і, паверыўшы ў гэта, пераклаў і нават надрукаваў на польскай мове трагедыю Расіна "Бераніка" [57]. Толькі што надрукаванаю і яшчэ вільготную кніжку, ён прынёс на памяць пані стольнікавай і застаўся на абед. Акурат у гэты дзень выпадкова на абед да яе прыйшоў Гарэцкі, і калі ўсе былі занятыя размовамі па розных кутках залы, ён узяў ў рукі са століка невядомую яшчэ кніжку, хуценька прачытаў яе і напісаў на вокладцы:

*“Такая людскіх лёсаў доля,*
*Не ўнікне ўсё знішчэння!*
*Пасля стагоддзяў захаплення*
*Расін знайшоў свайго Моля!”* [58]

І як ні ў чым не бывала, паклаў кнігу назад на столік.

Пасля абеду Яновічава, нічога не ведаючы, захацела зрабіць прыемнасць Молю і наўмысна завяла размову пра яго Бераніку. Шчаслівы Моль зрабіў сціплую

[57] "Бераніка" (фр.: Berenice) - трагедыя ў пяці актах французскага драматурга Жана Расіна, упершыню пастаўленая на сцэне ў 1670 г. - *Л. Л.*

[58] Taka losow ludzkich dola,
Nie uniknie nic zniszczenia!
Mimo wiekow uwielbienia
Znalazl Rasyn swego Mola! - *Л. Л.*

міну аўтара. Не цяжка ўявіць яго шчасце з гэтай нагоды. Але кожны госць між волі, калі глядзеў на вокладку, бачыў і эпіграму. Нарэшце сам Моль узяў кніжку, і лёгка можна ўявіць, як ён гэтаму ўзрадаваўся. На наступны дзень чатыры радкі ведаў увесь горад. Шкада, што большасць гэтых мімалётных вершыкаў Гарэцкага, у якіх ён быў пасапраўднаму непараўнальным і вялікім, не засталася ні ў яго ні чыёй-небудзь памяці.

Антон Гарэцкі не заўсёды, але час ад часу заікаўся. Гэта яго бянтэжыла бо калі ён пачынаў заікацца, гэта праходзіла не хутка. Вяртаючыся з-за мяжы ён раз-пораз спыняўся ў Кракаве, дзе ў той час жыла вядомая сваёй прыгажосцю, элегантнасцю, розумам і досціпам панна Веляпольская, якая тады ўяўляла сабой тое, што сёння мае назву "свецкая львіца". Надта непрывабны Гарэцкі, аднак, вельмі любіў прыгожых жанчын, і як толькі ён ўпершыню ўбачыў прыгожую панна Веляпольскую, яго яна моцна заінтрыгавала. Ці з-за гэтага пачуцця ці з-за чаго яшчэ, але падчас размовы з ёй паэт пачаў моцна заікацца. Нягледзячы на пашану, якую ўжо тады паўсюдна меў Гарэцкі, панна пырснула са смеху. Гэта вельмі пакрыўдзіла нашага паэта, але ён зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў. Гарэцкі усім спадабаўся і яго папрасілі зрабіць запісы ў альбомах прысутных дам. Альбомы пасыпаліся градам. Панна Веляпольская, прымадонна гэтага салона, выступіла першай. Гарэцкі ўзяў яе альбом і не задумваючыся ні на хвіліну, напісаў:

У тых вершах вечная памяць пра дзве хібы застанецца.
Я заікнуўся, а пані з мяне смяецца.
І скажу нашчадкам, робячы параўнанне,
Што тут вінавата прырода, а там дрэннае выхаванне[59].
*(Пераклад С. Судніка.)*

9. а) Пасля далучэння Літвы увесь час мяняліся віленскія губернатары. Адным з іх быў нейкі Мёнш (Mo-ensch), які па невядомых мне прычынах пазнаёміўся і вельмі зблізілася з генералавай Фіцінгоф (у першы шлюбе Забела), добрай, міласэрнай, вельмі брыдкай, але багатай жанчынай вышэйшага свету. Яе дом на рагу вуліц Нямецкай і Троцкай да гэта часу вядомы пад яе іменем. Аднойчы пані Фіцінгоф адчула патрэбу даць абед для гэтага Мёнша і сабрала для яго паважанае грамадства, запрасіўшы некалькіх вучоных і прафесараў Галоўнай віленскай школы (універсітэта. - *Л. Л.*). У іх лік уваходзілі знаёмыя нам сваімі творамі Дызма Бонча-Тамшэўскі[60], Рэшка[61], Жыцкі[62] і інш.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[59] W tych wierszach pozostanie dwoch wad pamiec wieczna:
Ja, zem byl zajekliwy, - Pani, ze niegrzeczna.
I rzekna potomkowie, czyniac porownanie,
Ze tam winna natura, - tu zle wychowanie.

Яна адказала Гарэцкаму, даслаўшы яму ў Вену верш:
*Памылка, хоць і дасціпная,*
*ёсць мудрых прызнанне,*
*што смех - плод прыроды, як і заіканне.*
*А хто смеху над слабай плоцццю баіцца,*
*той добрым выхаваннем*
*не можа пахваліцца.*
(Пераклад С. Судніка.) - *Л. Л.*

На што Гарэцкі ёй адказаў:
Juz jest wszystko skonczone, dajmy pokoj sobie;
Mozna rzec, ze z triumfem wyszly strony obie.
Wiec schowajmy juz ostre dowcipu sztylety.
Skromnosc, grzecznosc, lagodnosc to jest bron kobiety.

*Усё скончана ўжо, маем прыйсці да спакою такі,*
*Магчымая рэч, што ў трыумфе абодва бакі.*
*Дык схаваем вострых досціпаў штылеты,*
*Сціпласць, ветлівасць, лагоднасць - гэта зброя кабеты.*
(Пераклад С. Судніка.) - *Л. Л.*

[60] Дызма Бонча-Тамашэўскі, паэт, аўтар "Ягеланіды" і сакратар канцылярыя Станіслава Аўгуста, барскі канфедэрат.

[61] Рэшка Ігнат (1760-1830), доктар філасофіі, прафесар астраноміі Віленскага ўніверсітэта. Пра Ігната Рэшку гл: Лаўрэш Леанід. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 96-97. - *Л. Л.*

[62] Тамаш Жыцкі (1783-1840), матэматык, прафесар алгебры Віленскага ўніверсітэта (1807-1817). - *Л. Л.*

